

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь,
твой народ
дачакаецца
Залацістага,
яснага дня!
М. Багдановіч.

18 (164) СНЕЖАНЬ 2013 ГОД


ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## СПЕЦЫЯЛІСТЫ Ў РАЁНЕ ПРАЦАВАЦЬ НЕ ЖАДАЮЦЬ

**Даўно заўважана, што на рынку працы ў Шумілінскім раёне вакансій у тры разы болей, чым афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных. Аднак схаванае беспрацоўе па-ранейшаму расце.**

Прычыны вялікай колькасці незапатрабаваных рабочых месцаў розныя. Адна з іх – адсутнасць у беспрацоўных патрэбнай кваліфікацыі, у той час, як працоўны рынак патрабуе высокакваліфікаваных спецыялістаў. Аднак рабочыя прафесіі ўсё ж такі складаюць пераважную большасць вакансій. Да таго ж захоўваецца тэндэнцыя перавышэння колькасці звольненых работнікаў над прынятымі. Найбольш масавыя спецыяльнасці патрабуюцца ў сельскагаспадарчай галіне.

Паводле афіцыйных лічбаў на першае чэрвеня гэтага года патрэба ў кадрах перавышала 230 чалавек, у той час як колькасць зарэгістраваных беспрацоўных складала 78 чалавек.

Нягледзячы на тое, што ў раёне за мінулы год створана 123 рабочыя месцы,колькасцьзанятаганасельніцтва скарацілася на 242 чалавекі. Маюцца звесткі аб 11830 чалавек працаздольнага насельніцтва, але на рынку працы занята каля 8685 тысяч работнікаў. 3145 чалавек апынуліся на рынку працы па-за межамі раёна.

Як бачна, арганізацыі раёна так і не здолелі прывабіць прэтэндэнтаў на працоўныя месцы стабільнымі заробкамі і сацыяльнымі гарантыямі, таму і дэфіцыт у кадрах адчуваецца ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі раёна. Па-ранейшаму найбольш запатрабаваныя ў нашым раёне рабочыя спецыяльнасці. Пры гэтым самы вялікі попыт ў найбольш буйных прамысловых гаспадарках і арганізацыях раёна.

Да прыкладу, Обальскі керамічны завод мае заяўкі амаль на два дзесяткі чалавек – гэта вадзіцелі, машыністы бульдозера і экскаватара, электраманцёр, токар, здымшчык-укладчык,садчык. Ёсць вакансіі інжынера-тэхнолага і механіка.

Як заўжды, многа рабочых месцаў незапатрабаваныя ў Шумілінскім лягсасе. Усяго маецца каля трыццаці свабодных вакансій: эканамісты, механік, інжынер-лесапатолаг, майстар лесу, памочнік ляснічага, токар, вальшчык лесу, леснікі, муляр і іншыя.

Аднак усе без выключэння галіны эканомікі раёна маюць вялікую патрэбу і ў спецыялістах з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй. Гэта кагорта складае трэць вакансій. А калі аналізаваць галіны народнай гаспадаркі, то болей за палову свабодных вакансій прапануюць прадпрыемствы аграпраамысловага комплексу. У гаспадаркі АПК тэрмінова патрабуюцца 13 інжынераў,7 бухгалтараў, па 6 ветурачоў і аграномаў, 3 заатэхнікі, у тым ліку і на пасады галоўных спецыялістаў і намеснікаў кіраўнікоў. У кожнай гаспадарцы вострa не хапае рабочых прафесій: жывёлаводаў, вадзіцеляў,трактарыстаў, аператараў машыннага даення.

Аднак аграгарадкі пустуюць – высокакваліфікаваныя кадры ўпарта не едуць на вёску. Што тычыцца памеру заробкаў, то яны ў параўнанні нават з сярэднераённымі зусім сціплыя. Так, сярэдні заробак па Шумілінічыне за студзень-верасень дасягнуў 3 млн. 511 рублёў. А ветурачам, заатэхнікам, аграномам і эканамістам у сельгаспадарках "Ляжні" і "Прыдзвінскі" прапануюць зарплату ўсяго толькі ад 2 млн. да 2,5 млн. рублёў.

**Алесь Шумскі**



ЭКАНАМІЧНЫЯ РЭФОРМЫ

## ПАДРЫХТОЎКА ПРАДПРЫЕМСТВАЎ ДА ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

**Шэраг прадпрыемстваў вобласці да канца года плануюць пераўтварыць у адкрытыя акцыянерныя таварыствы. На Шумілінічыне намечаны да рэфармавання і Обальскі керамічны завод. У наступным годзе будзе актывізавана падрыхтоўка да яго прыватызацыі.**

Да канца года на Віцебшчыне плануецца завяршыць работы па пераўтварэнню ў адкрытыя акцыянерныя таварыствы 12 прадпрыемстваў рэспубліканскай і камунальнай уласнасці, а ў будучым годзе - падрыхтаваць іх да прыватызацыі.

Паводле інфармацыі фонда "Віцебскаблмаёмасьць", сярод прадпрыемстваў абласной уласнасці плануецца стварыць ААТ на базе КУП «Обальскі керамічны завод» , «Гандлёвы дом "Обальскі", ДУКСТП "ОбальБуд".

На сённяшні дзень ужоператвораныя УП "Віцебсктаргтэхніка" і РУПДП "Лепельскі электрамеханічны завод". У завяршальнай стадыі працэс пераўтварэння ў акцыянернае таварыства РУП "Віцебскхлебпрам".

Яшчэ чатыры прадпрыемствы, намечаныя да рэфармавання, адносяцца да раённай уласнасці. У ходзе падрыхтоўчых работ асаблівы акцэнт быў зроблены на пытаннях інвентарызацыі аб'ектаў нерухомасці, а таксама на неабходнасці захавання сацыяльных гарантый работнікаў.

Таксама для павышэння інвестыцыйнай прывабнасці актываў спецыялісты "Віцебскаблмаёмасьць" сфармавалі на падставе прапаноў мясцовых органаў улады пералік адкрытых акцыянерных таварыстваў з долямі камунальнай уласнасці менш за 25 %. У гэту катэгорыю ўвайшло 26 прадпрыемстваў), ад 25% да 50 % ( 6) і малых прадпрыемстваў у форме ААТ (34 суб'екты), па якіх могуць быць прыняты рашэнні аб прыватызацыі.

На дадзеным этапе ўжо абвешчана аб конкурсным продажы пакета акцый ААТ «СПМК - 27 г. Полацк » памерам 87,99 % , які належыць Віцебскай вобласці, з пачатковай цаной амаль 5,7 млрд.рублёў.

**Сяржук Горкі**

ЭПІДЭМІЯ

## ДЗІКІЯ СВІННІ РАЗНОСЯЦЬ ЗАРАЗУ ПА РАЁНУ

**На Шумілінічыне выяўлена афрыканская чума свіней сярод дзікоў. Ветэрынарамі ўжо зафіксавана два выпадкі, калі мяса забітых паляўнічымі вепрукоў было інфіцыравана чумой.**

Цяпер тыя гаспадары, якія трымаюць свіней на ўласным падворку, занепакоены пачутым пра эпідэмію ў раёне. Як вядома, на прыватных падворках яшчэ знаходзіцца 219 галоў свіней, асабліва многа такой жывёлы гадуюць на тэрыторыі Дабейскага сельсавета. А зараз, калі з'явіўся ачаг АЧС, то стала зразумела, што акрамя знішчэння жывёлы, ніякія іншыя меры барацьбы ўжо не дапамогуць.

Менавіта дзікія свінні з'яўляюцца першымі разносчыкамі, якія прыходзяць з лесу на пасевы кукурузы, бульбы і са слінай, з калам пакідаюць вірус. Разносяць хваробу і грызуны, драпежная жывёла і птушкі. Таму трэба рэгулярна праводзіць абследаванне паляўнічых тэрыторый з мэтай выяўлення загінуўшай жывёлы і інфармаваць аб гэтым ветслужбу раёна. Пры гэтым канфіскаваць дзікіх свіней у межах уліковай колькасці, без заліку плана.

Між тым адстрэл дзікіх свіней праводзіцца сіламі таварыства паляўнічых, лягсасу. У шумілінскіх лясах прыкладна жыве яшчэ 25 вепрукоў, які мігрыруюць па тэрыторыі. Пакуль няясна, хто будзе кампенсаваць паляўнічаму выдаткі за адстралянага вепра, якога трэба абавязкова закапаць, не ўжываючы мяса ў ежу. Начальнік Гарадоцкай міжраённай інспекцыі аховы раслiннага і жывёльнага свету В. В. Новікаў лічыць, што грошы павінен выдаткаваць раённы бюджэт.

**Алесь Шумскі**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## СКАРАЧАЕЦЦА ВЫТВОРЧАСЦЬ МАЛАКА

**Раён мінусуе па валавай вытворчасці малака да ўзроўню мінулага года і займае месца ў спісе самых адстаючых гаспадарак рэспублікі. А гэта недабор мільёнаў рублёў.**

Сярэдні надой малака ад каровы ў Шумілінскім раёне склаў за 9 месяцаў 2574 кг. Гэта мінус 341 кг да мінулага года, як і 21591 тон валавога вытворчасці ( 92,5 % да 2012). У выніку Шумілінічына займае 113 месца ў спісе аўтсайдэраў у рэспубліцы з 118 раёнаў. Газета "Беларуская ніва" напісала: "Падобна на тое, што пяцітысячны рубеж па прадукцыйнасці дойнага статка па - ранейшаму застаецца запаветнай марай"

Якія толькі не прапаноўваліся прымацьмерыпапаляпшэннюсітуацыі, але ўжо відавочна - дадаць хоць бы два валавых адсотка да мінулага года праблематычна. Прычым намецілася тэндэнцыя: кароў станавіцца больш, а малака менш.

Пры павелічэнні ў сельгаспрадпрыемствах кароў на 3,6 адсоткі адзначаецца скарачэнне вытворчасці малака. А экстэнсіўны шлях, як вядома, патрабуе вялікіх выдаткаў, таму лічыцца неэфектыўным. На 1 кастрычніка ў гаспадарках налічвалася ўжо 1,4 мільёна кароў, але малака стала меней.

Зрэшты, калі гаворка заходзіць аб вытворчых паказчыках, то куды важней фінансавы вынік, то бок колькі прадукцыі паступіла на перапрацоўчыя прадпрыемствы. У сувязі з скарачэннем вытворчасці малака малаказаводы таксама былі загружаны не настолькі, як у мінулым годзе - з атрыманага 4752,7 тысячы тон малака на перапрацоўку паступіла 4118,5 тысячы тон.

Гэта азначае, што таварнасць яго склала 86,6 адсоткі, у той час як у студзені - верасні мінулага года гэты паказчык быў на 1,4 адсоткі больш. Пры гэтым у Шумілінскім, Браслаўскім, Гарадоцкім, Лёзненскім, Мёрскім, Аршанскім, Калінкавіцкім і некаторых іншых раёнах таварнасць малака менш за 80 працэнтаў, а гэта недабор сотняў мільёнаў рублёў.

На зніжэнні прадуктыўнасці, якая паменшылася ў 97 раёнах, адбіліся невыкананне тэхналагічных працэса, парушэнне ўмоў утрымання і кармлення, адсутнасць належнага кантролю з боку кіраўнікоў і спецыялістаў. Кожнае з недахопаў альбо недапрацовак - гэта невялікае адступленне ад дасягнутага, а ў выніку - недабор за тры квартала больш за 29 тысяч тон малака.

ЧАРГОВЫ РОСТ

# ПАДАТКІ ПАВЯЛІЧАЦЦА ЎДВАЯ

**Паводле рашэння Шумілінскага райсавета падаткі на зямлю і нерухомасць у 2014 годзе будуць павялічаны для грамадзян ў два разы. Для гандлёвых арганізацый і камунальнай службы ў 1,2-1,5 раза.**

На падставе пункта 1 арт. 17 Закона Рэспублікі Беларусь ад 4 студзеня 2010 года "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь" Шумілінскі раённы Савет дэпутатаў вырашыў:

1. Павялічыць на 2014 год:

1.1. стаўкі зямельнага падатку:для фізічных асоб за зямельныя ўчасткі, размешчаныя ў межах населеных пунктаў, а таксама за іх межамі, прадастаўленыя фізічным асобам для будаўніцтва і абслугоўвання жылога дома, вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі, агародніцтва, калектыўнага садаводства, сенакашэння і выпасу жывёлы, дачнага будаўніцтва, і ў выпадку атрымання па спадчыне ці набыцця жылога дома – у 2 разы;

для фізічных асоб за землі населеных пунктаў, занятыя гаражнымі масівамі і асобна стаячымі (індывідуальнымі) гаражамі, а таксама выкарыстоўваемыя для ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці – у 2 разы;

для юрыдычных асоб за землі населеных пунктаў, а таксама за іх межамі – у 2 разы;

для арганізацый спажывецкай кааперацыі, камунальнага ўнітарнага прадпрыемства бытавога абслугоўвання насельніцтва Шумілінскага раёна па аб'ектах, размешчаных у гарадскім пасёлку Шуміліна і гарадскім пасёлку Обаль, – у 1,5 раза;

1.2 стаўкі падатку на нерухомасць:

для фізічных асоб, што маюць ва ўладанні гаражы, размешчаныя ў гаражных масівах гарадскога пасёлка Шуміліна і гарадскога пасёлка Обаль, а таксама па асобна стаячых (індывідуальных) гаражах у гарадскім пасёлку Шуміліна і гарадскім пасёлку Обаль – у 2 разы; для фізічных асоб на будынкі і пабудовы, уключаючы аб'екты незавершанага будаўніцтва, у залежнасці ад іх сапраўднага кошту і з улікам каэфіцыенту якасці асяроддзя і тыпу населенага пункта:

з коштам да 100 мільёнаў беларускіх рублёў незалежна ад месца размяшчэння – у 1, 2 раза;

з коштам звыш 100 мільёнаў беларускіх рублёў незалежна ад месца размяшчэння – у 1,3 раза;

для фізічных асоб на аб'екты нерухомасці, выкарыстоўваемыя ў прадпрымальніцкай дзейнасці, – у 2 разы;

для юрыдычных асоб – у 2 разы;

для арганізацый спажывецкай кааперацыі, камунальнага ўнітарнага прадпрыемства бытавога абслугоўвання насельніцтва Шумілінскага раёна па аб'ектах, размешчаных у гарадскім пасёлку Шуміліна і гарадскім пасёлку Обаль, – у 1,5 раза.

СПОРТ

# ШКОЛЬНІКІ НА ПРЫЗАВЫХ МЕСЦАХ

**У Віцебску прайшло першынство вобласці сярод школьнікаў па грэка-рымскай барацьбе. Пасняхова выступілі нашы землякі.**

Обальскія барцы Дзмітрый Кучмароў (вагавая катэгорыя 47 кг) і Аляксандр Барсукоў (вагавая катэгорыя 35 кг) заваявалі другія месцы, а Ягор Ганушчанка стаў трэцім у вагавой катэгорыі 53 кг. Трэніруе барцоў Пётр Ганушчанка.

Два месцы ў шумілінскіх спартсменаў, якіх трэніруе Юрый Сцяпанаў: другое месца ў Вадзіма Лягчонка (вагавая катэгорыя 42 кг) і трэцяе ў Максіма Ільюшчанкі (вагавая катэгорыя 59 кг).

# ПСКАЎЧАНЕ ВЫВЕЛІ ВАЛЕЙБАЛІСТАЎ НА САЮЗНЫ УЗРОВЕНЬ

**У мінулыя выхадныя ў ў ДзЮСШ адбыўся саюзны валейбольны турнір. У спаборніцтвах прымалі ўдзел каманды з Шуміліна, Пскова (Расія), Глыбокага, Бешанковіч, Віцебска і Наваполацка.**

Разам з дарослымі за перамогу змагаліся і юныя спартоўцы. Турнір па валейболу праходзіў у трох групах (дзяўчаты, хлопцы – старэйшы і малодшы ўзросты).

Шуміліна ў старэйшай групе прадстаўлялі каманда ДзЮСШ і зборная ветэранаў валейбола.

Найбольш напружанай і цікавай была сустрэча нашай каманды "Ветэраны" і валейбалістаў з Бешанковіч. Ва ўпартай барацьбе шумілінцы саступілі бешанковіцкай камандзе. Аднак астатнія матчы правялі пасняхова, да таго ж і каманда ДзЮСШ ішла без паражэнняў са сваімі аднагодкамі. У выніку вызначыліся лідэры: першае месца – Шуміліна (ветэраны), другое – Шуміліна (ДзЮСШ), трэцяе – Бешанковічы.

Спартыўны гонар раёна адстойвала дарослая каманда жанчын. Сустрэчы адбываліся з расейскія валейбалісткамі з Пскова – старэйшымі дзяўчатамі і студэнткамі. На жаль, шумілінская зборная прайграла пскоўскім студэнткам, якія і сталі пераможцамі. Затое вопыт і настрой дапамог зрабіць сваю справу: шумілінскія валейбалісткі занялі другое месца.

Турнір сярод валейбольных каманд выйгралі спартоўцы з Глыбокага. Нашы каманды занялі другое месца. На урачыстым закрыцці спаборніцтва лепшым валейбалістам былі ўручаны грашовыя прэміі.

# ВАДЗІМ ГРАЧУХІН – ЧЭМПІЁН РЭСПУБЛІКІ!

**На чэмпіянаце Беларусі па грэка-рымскай барацьбе ў Мінску абальчанін стаў чэмпіёнам краіны сярод навучэнцаў спецыялізаваных спартыўных устаноў.**

На спаборніцтвах па грэка-рымскай барацьбе беларускай сталіцы паспяхова выступіў обальскі барэц Вадзім Грачухін. Ва ўпартых паядынках з супернікамі ён прадэманстраваў бліскучую тэхніку і выдатную спартыўную падрыхтоўку. У выніку стаў чэмпіёнам у вагавай катэгорыі 66 кг. Акрамя гэтага, Грачухіна адзначылі спецыяльным прызам "За лепшую тэхніку".

Другі барэц з Обалі ў вагавай катэгорыі 47 кг Кірыл Драздоў стаў бронзавым прызёрам. Падрыхтаваў обальскіх спартсменаў да чэмпіянату краіны трэнер Пётр Ганушчанка.

**Алесь Прыбярэжны**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# БРАКАНЬЕРАМІ ЗАБІТЫ ЛОСЬ

**Каля вёскі Чаронка Шумілінскага раёна выяўлена месца незаконнага палявання. У лесе знойдзены парэшткі лася.**

24 лістапада работнікамі Гарадоцкай міжрайінспекцыі і ДЛГУ "Шумілінскі лягсас" у паляўнічых угоддзях паблізу вёскі Чаронка выяўлена месца незаконнай здабычы лася. Вядзецца пошук асоб, якія маюць дачыненне да незаконнага палявання.

Шумілінскі РАУС вырашае пытанне аб узбуджэньні крымінальнай справы па ч. 2 арт. 282 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь - незаконнае паляванне, якое пацягнула прычыненне шкоды ў буйным памеры - 95 базавых велічынь.

**По зводках Дзяржінспекцыі**
**Сяргей Горкі**

# РАЗАБРАЛІ ДОМІКІ

**Каля возера Шумілінскае невядомыя зламыснікі пашкодзілі дах у доміках для адпачынку. Адарваныя дошкі, якімі быў накрыты дах, хутчэй за ўсё нехта скарыстаў на гаспадарчыя патрэбы.**

Кіраўніцтва раёна прыклала нямала намаганняў, каб сіламі лягсаса устанавіць рублення домікі для адпачынку на беразе Шумілінскага возера. Летам тут можна было схавацца ад спёкі, пасядзець за сталом, пачытаць, згуляць партыю ў шахматы ці пастукаць ў даміно. Але як часта ў нас бывае, цягнуць усё, што дрэнна ляжыць. Вядома ж, міліцыянера каля кожнага слупа не паставіш. А свядомасць тутэйшага насельніцтва засталася чакаць лепшых часоў. Таму і крадуць усё, што трапіць пад руку - маўляў, у гаспадарцы спатрэбіцца. Ды і санітарны стан тых домікаў не заўсёды быў на ўзроўні. Мясцовыя выпівохі там часта пакідалі за сабой разбітыя бутэлькі пасля спажывання таннага напою, якое ў народзе называюць "чарнілам".

Як не стараліся будаўнікі капітальна прымацоўваць дах, але дошкі літаральна кажучы, узадралі праз сілу. Цяпер будаўнічая брыгада шумілінскіх камунальнікаў прывезла новыя дошкі і пачала рабіць рамонт. За кошт бюджэта, які папаўняюць падаткаплацельшчыкі. І як заўсёды, за наш з вамі кошт.

**Уладзімір Амбросаў**

ПРАВАПАРАДАК

# ЗАХОЎВАЕЦЦА ВЫСОКІ ЎЗРОВЕНЬ ЗЛАЧЫННАСЦІ

**Прайшло першае пасяджэнне аблвыканкама ў рэжыме відэаканферэнцсувязі. У паседжанні прынялі ўдзел старшыні ўсіх гарадскіх і раённых выканкамаў.**

Намеснік начальніка міліцыі грамадскай бяспекі УУС аблвыканкама Ігар Скарыновіч і пракурор вобласці Генадзь Дыско ў сваіх дакладах адзначылі, што праведзены значны аб'ём працы, звязанай з прафілактыкай правапарушэнняў, умацаваннем грамадскай дысцыпліны і папярэджаннем карупцыі.

Вынік - істотнае зніжэнне ўзроўню злачыннасці, у тым ліку на 31 % сярод непаўнагалетніх, на 15,8 % у стане алкагольнага ап'янення. Разам з тым маецца шэраг трывожных тэндэнцый, якія патрабуюць прыняцця дадатковых арганізацыйна - прававых мер па блакаванні злачынных праяў.

У цэлым высокі ўзровень злачыннасці на 10 тысяч насельніцтва захоўваецца ў Шумілінскім, Бешанковіцкім, Віцебскім, Гарадоцкім, Докшыцкім, Чыгучнаным і Кастрычніцкім (Віцебск), Аршанскім, Полацкім, Сенненскім, Талачынскім, Чашніцкім раёнах.

У прыватнасці, няпростая крымінагенная сітуацыя склалася ў Віцебску і Наваполацку, дзе ўзрасла колькасць злачынстваў, учыненых у стане алкагольнага ап'янення, а таксама паўторна.

**Я. Вайтовіч**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ДАТА

# 16 СНЕЖНЯ НАРАДЗІЎСЯ СЯРГЕЙ ЗАКОННІКАЎ

*Не думай, чалавек, што ты забыты*
*У гэтым сьвеце, дзе хапае зла,*
*Што доля адвярнулася нібыта,*
*Ці зноў бачком у нечым абышла.*

*Не думай, што твой плён – пусты і марны,*
*І можна кінуць рупнасьці кайло.*
*Глядзі, як ранкам у нябёсах хмарных*
*Чароўнай кветкай сонца расьцьвіло.*

*За намі наглядаюць вочы Бога,*
*Яны заўжды не скупяцца сьвятлом.*
*Не думай, што ў тупік вядзе дарога,*
*Што ўсё ў быцьці людзей пайшло на злом.*

*Пакуль яшчэ прадвесьнікі не трубяць...*
*Жыві спакойна на сваёй зямлі,*
*Не думай, што цябе ніхто не любіць,*
*Лепш сам любоў да бліжняга сьпялі.*

АКТУАЛЬНАЯ ТЭМА

# «... Ў БЕЛАРУСІ БУДЗЕ МАЙДАН»

**«Салідарнасць» разузнала, что думают о пошлине на авто Лявон Вольский, Александр Солодуха, водитель маршрутки и читатель «СБ».**

**Предприниматель: «Армия чиновников сожрет эти деньги и не подавится»**

Предприниматель из Солигорска Павел считает пошлину на авто несправедливой.

*— Министр финансов Харковец кивает на другие страны, мол, там тоже такой налог есть. Так в других странах люди не платят такие деньги за продукты и одежду, как в Беларуси! Если денег в бюджете нет – так и скажи, а не езди людям по ушам.*

Бизнесмен уверен, поступления от пошлин на авто «армия чиновников сожрет и не подавится, а дороги лучше не станут».

**Водитель маршрутки: «Людиперестануттехосмотр проходить. Дешевле будет заплатить штраф»**

*— Чтоб их раком поставило с этой пошлиной, — это самое ласковое ругательство из уст водителя маршрутки Слуцк-Минск в ответ на просьбу журналиста дать оценку новому законопроекту. — Вы же понимаете, что это двойное налогообложение. У нас ведь дороги платные!*

По мнению водителя, вводить пошлину на авто несправедливо.

*— Кто-то, как я, целый день за рулем, а кто-то два-три раза в год выедет, чтобы техосмотр пройти и тоже должен платить. Я вот думаю, люди перестанут техосмотр проходить. Дешевле будет заплатить штраф, —предположил собеседник.*

Водитель частной маршрутки прогнозирует рост цен на билеты, но считает, что люди не откажутся от поездок.

*— Я не знаю, что надо сделать, чтобы наш народ начал протестовать и доказывать власти свою позицию, — рассуждает он. — Белорусы живут по принципу «моя хата с краю».*

**Александр Солодуха: «У меня водитель»**

В свое время активно поддержавший налог на тунеядство Александр Солодуха, услышав о принятой депутатами пошлине на авто, скороговоркой выпалил:

*— Я сам за рулем не езжу. У меня водитель. Я живу моим концертом на «Минск-Арене» 8 марта. Мне некогда…*

После этой речи король белорусской эстрады отключился.

**Лявон Вольскі: «Не перастаю здзіўляцца бясконцаму ідыятызму ўлады»**

А вось Лявон Вольскі не стаў хаваць сваё меркаванне аб якая ўводзіцца пошліне.

*- Народ пачынаюць біць па самых балючых месцах. Бо машына, тэлефонён, тэлевізар - у нашым грамадстве, Дзе спажыванне прыроўненае ды рэлігіі - гэтя святое. Таму Яшчэ пара такіх законаў - І Будзе Майдан І Рэвалюцыя. Асабіста я Пакула не ведаю, як рэагаваць на гэты абсурд. Думаю. І ўсё ня перастаю здзіўляцца бясконцаму ідыятызму ўлады.*

Аднак, як у выніку павядуць сябе беларусы? Як вядома, нямы плаціць двойчы.

*(скарочана)*

**Таццяна Гусева**
**gazetaby.com/cont/art.php**

НАША ЎЛАДА

# ВЫРАТАВАЛЬНАЯ ЗНАХОДКА

**Што трэба рабіць, калі сытуацыя ў эканоміцы дрэнная, загады прэзыдэнта не выконваюцца, народ незадаволены, а давер да ўлады падае? Правільна, трэба рэгулярна праводзіць вялікія нарады.**

Нарэшце знойдзеная «палачка-выручалачка», з дапамогай якой можна вырашыць усе згаданыя праблемы. Гэта ж проста, як усё геніяльнае. І як гэта Лукашэнка раней не дадумаўся да такога шыкоўнага выйсьця, нават дзіўна.

Кіраўнік дзяржавы зрабіў рацыянальную выснову, што народ можа дараваць лідэру шмат, але толькі не бязьдзейнасьць. Вось прыклады ад адваротнага дае **Віктар Януковіч**. Ён больш за тыдзень маўчаў, ніяк не тлумачыў адмову ад падпісаньня Ўкраінай дамовы аб асацыяцыі на Віленскім саміце. Потым некалькі дзён маўчаў пасьля зьбіцьця «Беркутам» людзей на Майдане. І ўкраінцы ня могуць зразумець: у іх ёсьць прэзыдэнт, ці яго няма.

Лукашэнка дэманструе тым большую актыўнасьць, чым горшыя справы ў краіне. Няхай і вынікаў асаблівых няма, але народ бачыць: ён жа стараецца.

Праблема ня толькі ў тым, што краіна ўступіла ў крызіс кіравальнасьці. Горш за тое, гэта пачынае бачыць насельніцтва. Усе пляны і заданьні, якія раздае кіраўнік дзяржавы, не выконваюцца. Самае страшнае для аўтарытарнага лідэра — чыноўнікі перастаюць яго баяцца. Найлепшая ілюстрацыя гэтай тэзы — сытуацыя ў дрэваапрацоўцы.

Адзін з элементаў гэтага крызісу быў прадэманстраваны на нарадзе ў аўторак. «Мяне інфармуюць, што пасьпяховыя кіраўнікі прадпрыемстваў ня хочуць ісьці ва ўладу... Высокапастаўленая пасада, як мне дакладваюць, некаторымі ўспрымаецца як дадатковая нагрузка і крыніца падвышанай небясьпекі», — сказаў Лукашэнка. Гэтую сытуацыю праілюстраваў кіраўнік адміністрацыі прэзыдэнта **Андрэй Кабякоў**: «У рэзэрве на пасаду намесьніка міністра сельскай гаспадаркі і харчаваньня было тры кандыдатуры. Аднак ад прызначэньня ўсе яны па той ці іншай прычыне адмовіліся. У выніку быў прызначаны першы намесьнік старшыні Барысаўскага райвыканкама... Амаль два гады пустуе крэсла намесьніка міністра эканомікі. Доўгі час вакантныя пасады намесьнікаў міністраў архітэктуры і будаўніцтва, спорту і турызму». Паводле слоў Кабякова, яшчэ складаней сытуацыя на рэгіянальным узроўні. Напрыклад, пры падборы кандыдатаў на пасаду першага намесьніка старшыні начальніка ўпраўленьня сельскай гаспадаркі і харчаваньня Крупскага райвыканкама адмовілася дзевяць кіраўнікоў сельгасарганізацый ня толькі зь Менскай, але і зь Берасьцейскай і Гарадзенскай абласьцей.

Высокапастаўленая пасада, як мне дакладваюць, некаторымі ўспрымаецца як дадатковая нагрузка і крыніца падвышанай небясьпекі

Калі людзі ня хочуць быць начальнікамі — гэта відавочная прыкмета крызісу сыстэмы. Так было за апошнімі часамі існаваньня СССР: калі ніхто не хацеў займаць пасаду партыйных кіраўнікоў, знайсьці кандыдатуру на пасаду першага сакратара райкама КПСС было вялікай праблемай.

Гэта наўпрост адбіваецца на якасьці кіраваньня. Калі намесьнікам міністра сельскай гаспадаркі прызначаюць намесьніка старшыні райвыканкама, дык самі разумееце, які будзе эфэкт. Гэта як напярэдадні вайны у СССР лейтэнантаў прызначалі кіраваць палкамі. Усім вядома, што атрымалася з таго экспэрымэнту.

Лукашэнка разумее, што трэба нешта рабіць. Ладзіць рэформы небясьпечна. Трэба, лічыць ён, неяк прымусіць працаваць гэтую сыстэму. Як? Усё, што робіць беларускі лідэр, не выходзіць за межы ягонага ўласнага жыцьцёвага досьведу. І ён узгадаў, як за савецкім часам рэгулярна праводзілі партыйна-гаспадарчыя актывы. Там выступалі высокія начальнікі, тлумачылі, як працаваць, пагражалі нядобрасумленным кіраўнікам. Вось Лукашэнка і спрабуе паўтарыць той досьвед.

Такія дырэктыўныя выступы прэзыдэнта з указаньнямі, устаноўкамі, разносамі і публічнымі прыніжэньнямі чыноўнікаў незразумелыя і непатрэбныя ў нармальнай дэмакратычнай краіне. Яны неэфэктыўныя, паколькі неэфэктыўная сама сыстэма. Але ў межах існай сыстэмы яны зьяўляюцца неабходным элементам яе функцыянаваньня. Калі адсутнічаюць эканамічныя стымулы, дык іх трэба кампэнсаваць прымусам. Сталінскія рэпрэсіі супраць кіроўных кадраў часткова выконвалі ролю такога прымусу. Бо калі няма жорсткага ціску зь вяршыні адміністратыўнай піраміды, дык сыстэма загнівае. Што паказаў брэжнеўскі застой. Лукашэнка гэта інтуітыўна адчувае, таму ўвесь час і цісьне, пужае. Яму здаецца, што яшчэ адна нарада — і сыстэма запрацуе. Шчасьлівыя тыя, хто верыць, бо іх царства нябеснае.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

НАША САЛІДАРНАСЦЬ

# ЗНІШЧЭННЕ ЛІСТОЎ СТАТКЕВІЧУ

**Адміністрацыя магілёўскай турмы лічыць законным знішчэнне лістоў палітвязню.**

Гарадоцкі актывіст **Леанід Гаравы** атрымаў адказ ад начальніка турмы А. В. Дзмітрава на сваю скаргу, якую ён накіроўваў у Дэпартамент выканання пакаранняў па Магілёўскай вобласці. Ён патрабаваў тлумачэнняў, чаму яго ліст не дайшоў да палітвязня Мікалая Статкевіча, піша ПЦ «Вясна». *Але адказ атрымаў ад тых на каго скардзіўся.*

*«У адказе з турмы напісана: «парушэнняў супрацоўнікамі турмы№4 парадку здабывання накіраванага Вамі ліста не ўстаноўлена». І ўсё... Не, каб прымаць меры да поўнага, аб'ектыўнага, усебаковага і своечасовага разгляду скаргаў, прымаць абгрунтаваныя рашэнні. Хоць - чаго здзіўляцца? Скаргу разглядалі тыя, на каго я ўласна і скардзіўся. Куды пісаць далей? У Дэпартамент выканання пакаранняў МУС у Менск ці ў пракуратуру Магілёва? Ці ў дзяржкантроль?»* - разважае **Леанід Гаравы, сябра БСДП (Грамада) і актывіст руху «За Свабоду».**

Ён лістуецца з многімі палітвязнямі, але ў адказ на адзін са сваіх апошніх лістоў Гаравы атрымаў ад Мікалая Статкевіча паведамленне, што гэты яго ліст не прайшоў цэнзуру. У паштоўцы ад **Статкевіча** было напісана: *«Атрымаў пусты канверт ад вашага ліста з паметкай цэнзуры. Значыць, ваш ліст быў вельмі добрым:). Дзякуй за падтрымку. Поспехаў у вашых справах!»*

Леанід Гаравы лічыць, што гэта неабгрунтаванае абмежаванне права на ліставанне палітвязня Мікалая Статкевіча.

Адказ на сваю скаргу на неправамерныя дзеянні службовых асоб магілёўскай турмы №4 актывіст лічыць звычайнай адпіскай і збіраецца скардзіцца ў вышэйшыя структуры.

**www.charter97.org/be**

ГАСПАДАР СЛОВА

# НАЕЛСЯ ЛИ НАКОНЕЦ ЛУКАШЕНКО ПРЕЗИДЕНТСТВА

**Если Лукашенко говорит, что президентства уже наелся, значит, сто процентов будет участвовать в следующих выборах.**

*«В последнее время опять мне начинают подбрасывать вопросы с выборами. Я не напрягаюсь по этому вопросу, как некоторым кажется. И пытаться меня припереть к стенке выборами... Я уже президентства наелся, если уж на то пошло»*, — заявил Александр Лукашенко 10 декабря на республиканском совещании по решению проблем строительной отрасли и совершенствованию работы с руководящими кадрами.

*«Изберут меня люди или не изберут — поверьте, это будет зависеть не только от вас. Если я еще буду участвовать в этих президентских выборах. Это только Господу известно, еще до них надо дожить. Человек ходит-ходит, а завтра и ходить перестает. Поэтому всякое может быть»*, — предположил официальный лидер.




Всякое может быть — это точно. И дороги бывают скользкие, и самолеты до взлетно-посадочной полосы не дотягивают, да и элементарный инфаркт у мужчин в таком возрасте — дело обычное. Но это все гипотетически. Реальность же такова, что основным претендентом на президентских выборах 2015 года будет Лукашенко. Что бы там Александр Григорьевич не говорил!

А о туманности своих перспектив накануне очередной избирательной кампании Лукашенко говорит постоянно. Красноречия официальному лидеру не занимать, но в отношении собственного президентского опыта Лукашенко с завидной регулярностью использует один и тот же эпитет — **«наелся»**.

*«Я восемь лет — президент. Поверьте, я уже власти наелся столько, что вам и не снилось»*. Так Александр Лукашенко говорил **9 декабря 2002 года** в интервью программе «Сегодня» телеканала НТВ.

*«Я очень часто уже начинаю оправдываться, даже перед высокопоставленными чиновниками России. Я им так говорю: дорогие мои, родные, я наелся власти, мне шапка Мономаха не нужна, я не приезжаю в Кремль, чтобы схватить какую-то стену и увезти в Беларусь, я не претендую ни на какие-то там властные полномочия на территории России»*. Это его слова **1 августа 2003 года** на пресс-конференции для российских СМИ.

А потом были референдум 2004 года об изменении Конституции, что позволило Лукашенко баллотироваться в президенты без ограничений, и собственно выборы 2006 года, которые завершились очередной «элегантной» победой. Выходит, не утолил Александр Григорьевича жажду власти! Хотя на людях по-прежнему твердил, что сыт всем этим по горло.

*«И я уже вот так наелся. У меня уже просто нет сил. Полтора десятка лет, а может быть, и двадцать, вот эта борьба, борьба. Непрерывная борьба»*, — сетовал Лукашенко в **феврале 2007 году** в интервью российской газете «Завтра».

Правда, иногда он пытался пояснить обществу противоречивость ситуации. *«Хочу сказать откровенно: Лукашенко уже достаточно у власти, наелся ею, и вопрос в том, во имя чего я стараюсь ее сохранить. У меня всегда была одна цель — сохранить суверенитет, независимость нашей страны. Я хочу, чтобы народ нормально жил, чтобы на этом клочке земли люди чувствовали себя дома. Вот цель всей моей властной политики»*, — говорил Лукашенко **21 октября 2009 года** во время встречи с министром иностранных дел Эстонии Урмасом Паэтом.

Понятно, что, имея в жизни такую цель, Лукашенко не станет отдавать кому-то рычаги управления страной. Даже людям, которым он может доверять. Например, собственным сыновьям.

*«Забудьте эти разговоры о том, что я готовлю своей сыновей как наследников — это не Россия. По наследству власть никто передавать не будет. Я не хочу, чтобы мои дети были президентами в Беларуси. Я наелся, и моим детям из-за меня хватило этого президентства»*, — заявил Лукашенко 1 октября 2010 года в ходе пресс-конференции для региональных российских СМИ.

**«Мне достаточно власти в Беларуси. Я нормально работаю. Меня люди уважают. Да мне уже не до этого — я уже наелся этого хлеба, дальше некуда»**, — вторил он себе в интервью газете «Литовский курьер», которое было опубликовано **21 октября 2010 года**.

Наелся — не наелся, но на выборы 2010 года Лукашенко пошел без раздумий. Итог их всем известен.

В общем, Лукашенко на пенсию не собирается, и в 2015 году баллотироваться будет явно не для того, чтобы проиграть. Тогда зачем он почти полтора десятка лет повторяет, как он наелся этого президентства?

Маловероятно, что Лукашенко от власти действительно устал, а прорывающиеся в интервью откровения — его подсознательное подтверждение этой усталости. Скорее наоборот: концентрированность и абсолютная полнота власти — это тот наркотик, который позволяет Лукашенко так долго быть в форме. Кроме того, очевидно, что опьянение властью серьезно исказило мировосприятие Лукашенко. **Он уже давно не отделяет себя как личность от должности президента, да и от страны в целом**.

В таком контексте его вербальная пресыщенность властью — не более чем игра на публику в попытке **подчеркнуть священную и где-то даже мученическую суть его президентства**.

**Дмитрий СЕРГЕЙЧИК**
**naviny.by**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

# ДЗЯРЖАВА ЎДАРЫЛА БАЛЬНІЧНЫМ ЛІСТОМ

**Ўрадавая пастанова № 569, зрэзала выплаты па бальнічных лістах, асабліва моцна ўдарыла па маладых спецыялістах, у якіх перыяд выплаты страхавых узносаў складае менш за шэсць месяцаў.**

Замест **сярэднедзённага заробку** за дні хваробы ім налічваюць дапамогу ў мінімальным памеры, роўным **50 % бюджэту пражытачнага мінімуму**.

Наведваючы 8 кастрычніка ААТ «БелАЗ», **Аляксандр Лукашэнка заявіў**, што не выключае магчымасці вяртання да ранейшага механізму аплаты бальнічных лістоў . Аднак з тых часоў нічога перагледжана або адменена не было, і антыгуманны эксперымент над працоўным насельніцтвам Беларусі працягваецца. Адчуваючы недахоп грошай, *«дзяржава для народа»* вымушана адмаўляцца ад сацыяльных гарантый.

**На такіх грошах і здаровы памрэ**

Як вядома, з пачатку года ў Беларусі павялічаны дапамогі па догляду дзіцяці ва ўзросце да трох гадоў. У выніку значна ўзраслі расходы Фонду сацыяльнай абароны на гэтыя выплаты, што прывяло да недахопу сродкаў у бюджэце фонду на іншыя расходы па сацыяльнаму страхаванню.

Для вырашэння гэтай праблемы ўрад, у прыватнасці, і прыняў **пастанову № 569**, мэта якой - скарацiць выплаты па бальнічных лістах. Так, павялічаны з 6 да 12 дзён тэрмін аплаты бальнічных ў памеры 80 % ад сярэдняй заработнай платы, а для разліку сярэдняй заработнай платы цяпер бярэцца перыяд не ў два, а ў шэсць месяцаў. Маладым жа спецыялістам, як адзначана вышэй, не пашанцавала асабліва.

Наўрад ці існуе статыстыка захворванняў і выплат маладым спецыялістам па хваробах, але думаю, што гэтыя сумы нязначныя для дзяржавы. Але страты для спецыяліста адчувальныя. Напрыклад, калі ў такога работніка сярэдняя месячная заработная плата складае 2500000 рублёў, то сума выплат за месяц хваробы ў агульным парадку была б 2300000 рублёў, а так ён атрымае за ўсё 523 800 рублёў, **або 17 460 рублёў у дзень**.

Прымаючы гэта рашэнне, чыноўнікі, магчыма, лічылі, што хварэць па новых правілах гэтай катэгорыі спецыялістаў стане нявыгадна і яны проста не стануць звяртацца за бальнічнымі лістамі. З апошніх сіл будуць хадзіць на працу. Пры гэтым будзе налічвацца заработная плата, адпаведна, будуць і ўзносы ад яе ў фонд, а не выплаты са сродкаў фонду. **Выгада для дзяржавы падвойная**.

Можна лічыць, пашанцавала, калі малады спецыяліст захварэў на грып або ВРВІ. Але калі хвароба больш сур'ёзная і працяглая?

Вось тады і прыйдзецца сутыкнуцца з праблемай выжывання на палову бюджэту пражытачнага мінімуму. І пры гэтым трэба не проста выжыць, але яшчэ і вылечыцца, гэта значыць несці дадатковыя, і немалыя, выдаткі. А калі ж трэба яшчэ і пагашаць крэдыты на аплату адукацыі або аплачваць здымнае жыллё?

*(скарочана)*

**Ганна Вашчыла**
**http://naviny.by**

ТАКАЯ СТАТЫСТЫКА

# БЕЛАРУСЬ – ПАЛІЦЭЙСКАЯ КРАІНА

**На 100 тысяч насельніцтва ў Беларусі прыпадае 1442 супрацоўніка МУС. Сярэднесусветны паказчык складае 300 паліцэйскіх на 100 тыс. чалавек.**

ААН рэкамендуе **222 паліцэйскіх**, а ў СССР было **214 міліцыянта** на 100 тыс. насельніцтва.

Іншымі словамі, Беларусь з'яўляецца абсалютным лідэрам у свеце па суадносінах ліку супрацоўнікаў міліцыі да насельніцтва.

Гэтыя паказчыкі **прыведзены ў тлумачальнай запісцы да двух законапраектах**, якія зарэгістраваныя ў Вярхоўнай радзе Украіне. Прапануецца істотна знізіць колькасць супрацоўнікаў Міністэрства ўнутраных спраў і органаў пракуратуры. Аўтары лічаць, што агульная колькасць ў 375 700 чалавек (або **780 супрацоўнікаў** на 100 тыс. насельніцтва) неабгрунтаваных завышаная, піша **«Коммерсант-Украина»**.

У тлумачальнай запісцы да законапраекта аб скарачэннях у МУС таксама паказваецца, што ў Італіі на 100 тыс. насельніцтва прыпадае 552 паліцэйскіх, у Балгарыі - 442, у Чэхіі - 405, Францыі - 369, Польшчы - 264, **у ЗША - 233**. Найбольшыя суадносіны пасля Беларусі зафіксавана **ў Расіі - 976**. Найменшы еўрапейскі паказчык - **у Швецыі - 195-200** на 100 тыс. насельніцтва.

**gazetaby.com/cont/art.php**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 28.12.2013 у 18.25**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.